забаўляльна-навучальны часопіс для дзетак

# Гарбузік

№1




заданні
ЧЫТАЕМ
забаўкі
крыжаванкі
ЛІЧЫМ
казкі
МАЛЮЕМ
ГУЛЯЕМ
самаробкі
вершы

# Светл

***Вялікдзень*** *– самае важнае і значнае народнае свята. Калісьці даўным-даўно нашыя продкі віталі перамогу Сонца-Даждзбога, надыход вясны, абуджэнне прыроды, пачатак “вялікіх дзён” палявых работ.*

Пазней, калі ўзнікла рэлігія хрысціянства, Вялікдзень, ці Пасха, стаў днём праслаўлення Ісуса Хрыста, які быў ускрыжаваны і ўваскрос з мёртвых. Таму на свята людзі вітаюцца словамі: “Хрыстос уваскрос!”, на што прынята адказваць: “Сапраўды ўваскрос!”

Велікоднае яйка — сімвал перамогі жыцця над смерцю. Існуе паданне. Марыя Магдаліна, вучаніца Ісуса Хрыста, паведаміла імператару пра ўваскрашэнне Хрыста. Са словамі “Хрыстос уваскрос!” яна падала яму звычайнае белае яйка. Імператар пагардліва адказаў, што паверыць ва ўваскрашэнне, толькі калі гэтае яйка зараз жа пачырванее. І адбыўся цуд — у ягоных руках яйка стала чырвоным! Уражаны ўладар прамовіў: “Сапраўды ўваскрос!” Так з’явіўся звычай велікоднага вітання.

Увесь тыдзень перад Пасхай людзі рыхтуюцца да свята. У суботу святочную ежу — булкі, пасху, яйкі — нясуць у храм асвяціць. Раней верылі: першы, хто прыбяжыць з пасвечанай булкай дамоў, раней скончыць працу ў полі і атрымае лепшы ўраджай.



# ы дзень

Паліна Грынчанка



У народзе існавала шмат велікодных павер’яў. Фарбаваным яйкам маці гладзілі па твары дзетак, каб раслі здаровенькімі ды прыгожанькімі. Абрус, на якім стаялі велікодныя стравы, нібыта абараняў ад граду, таму, пабачыўшы градавыя хмары, вяскоўцы раскладалі абрус на двары. На свята хлопцы і дзяўчаты гушкаліся на арэлях, каб хутчэй расло жыта.

На другі — трэці дзень Вялікадня па вёсках хадзілі велікодныя спевакі — валачобнікі. Музыкі гралі на скрыпцы і дудзе. Механоша насіў мех для святочных дарункаў. Валачобнікі хадзілі па хатах, славілі гаспадароў, зычылі дабра. Гаспадары дзякавалі спевакам і дарылі ім “валачобнае” — булкі, фарбаваныя яйкі, каўбасы.





## Святочныя гульні

***“Біткі”***. Дзеці і дарослыя б’юцца яйкамі. Перамагае той, у каго аказваецца наймацнейшае яйка (*мацак*); ён і забірае сабе разбітае яйка (*бітак*).

***“Качанне яек”***. На зямлю пад нахілам кладуць дошчачку, па якой коцяць яйкі. Пераможца той, чыё яйка пакоціцца далей. Таксама выграе той, чыё яйка закране іншыя — тады іх забірае пераможца.

***“На паляўнічы спрыт”***. Гульцы з завязанымі вачыма мусяць з трох разоў патрапіць вялікай лыжкай па яйку.



У падрыхтоўцы раздзела былі выкарыстаны матэрыялы з сайтаў nastaunik.info, z-roga.belarushosting.org, dzietki.org і з блогу карыстальніка LaVita.





# Пісанкі

**Адшукай аднолькавыя яйкі і расфарбуй іх колерамі, якія табе даспадобы.**





# У госці

Куранятка ідзе ў госці. Але да каго яно патрапіць? Знайдзі, з кім куранятка адзначыць свята.



# Розныя блізняты



Гэтыя трусяняты выглядаюць аднолькавымі, але насамрэч яны адрозніваюцца. Колькі кружкоў - столькі адрозненняў. Адшукай іх і замалюй кружкі.

# Хто хаваецца за кропкай?

Абвядзі малюнкі па кропках у правільным парадку і паглядзі, што атрымаецца.





Алена Церашкова

# Я яечка распісала

Я яечка распісала:
каласок намалявала.
Тут прыбеглі мышаняты:
— Падарыце дзеля свята!
Давялося падарыць.
Села новае рабіць.







Я яечка распісала:
мышаня намалявала.
Тут прыбеглі кацяняты:
— Падарыце дзеля свята!
Давялося падарыць.
Села трэцяе рабіць.

Я яечка распісала:
кацяня намалявала.
Тут з'явіліся шчаняты:
— Падарыце дзеля свята!
Давялося падарыць.
А самой яшчэ рабіць.





Скутар я намалявала
і яечка прыхавала.
Не крыўдуйце, звераняты,
гэта падару я тату!

*Малявала Юлія Малахоўская*

## Адгадай!

Што ў сцяну
не ўваб'еш?

Поўна бочачка віна,
Нідзе дзірачкі няма.

У адным гаршчочку
дзве кашкі варацца.

Пакуль варыш –
соліш,
Пачнеш есці –
несалонае.

Майструем

**Спатрэбіцца:**
- Папера для асновы
- Каляровая папера для яйка
- Нажнічкі з тонкім вострым канцом — але не скругленым!
- Просты аловак, лінoўка, клей-аловак
- Тоўстая кніга
- Гелевая асадка, каб падпісаць паштоўку






# Вялікодная паштоўка

*Вольга Бабурына*
*http://palunisa.livejournal.com/*



**1.** Бярэм квадратны аркуш паперы. Надціскаем нажніцамі лінію пасярэдзіне для роўнага згіну. Складаем напалам. Выразаем хвалю па адным краі паштоўкі. Аснова гатова.

**2.** Складаем аркуш каляровай паперы, да згіну прыкладаем лекала і абмалёўваем алоўкам.

Выразаем яйка па контуры. Выразаць трэба да канца, не абрываць. Надрэз павінен быць вельмі глыбокі.

Выстрыгаем малюнак, згінаючы паперу па чырвоных лініях: пачынаем з маленькага ўзору, пасля выстрыгаем большы ўзор. Трымаем паперу, каб яна не рассоўвалася.

**3.** Яйка гатова. Разгортваем яго. Каб яно выраўнялася, кладзем у тоўстую кнігу.

Прыклейваем яйка на правы бок паштоўкі.

Яйка цалкам змазваць не трэба, толькі ў тых месцах, дзе найменш выстрыжана.

Гелевай асадкай дамалёўваем травінкі, падпісваем паштоўку.

*Святочная паштоўка з выцінанкай гатовая!*

Гарбузік
забаўляльна-навучальны часопіс для дзетак

Нашыя дзеткі
dzietki.org

Нумар падрыхтавалі:
рэдактары *Вольга Мазурава,*
*Паліна Грынчанка*
кампутарная вёрстка і дызайн
*Ірына Бурносенка*
пры дапамозе *Юліі Малахоўскай*

цікавосткі

# Хто прыносіць велікодныя яйкі?

***Хочаш даведацца, як адзначаюць Вялікдзень дзеці ў розных краінах свету? Ну дык слухай.***



Трусік — сімвал Вялікадня ў некаторых краінах Еўропы і ў ЗША. Яшчэ ў XVI стагоддзі немцы апавядалі дзецям, што на Пасху трусік прыносіць малым падарункі — размаляваныя яйкі. Аднак падарункі атрымліваюць толькі тыя, хто слухаецца бацькоў і не крыўдзіць малодшых. Дзеці самі рабілі “гняздо” для размаляваных яек і нецярпліва чакалі, калі ж трусік пакладзе туды падарунак.

У Бельгіі дзеці шукаюць яйкі, якія загадзя схавалі бацькі. Хто адшукаў больш — той пераможца!

У Чэхіі для дзетак гатуюць асобны пачастунак — пернікі ў выглядзе баранчыкаў — баранекі.

Амерыканскія дзеткі качаюць яйкі па нахіленным газоне, падганяючы іх рукой. Перамагае той, хто пракаціў яйка далей і без спыну.

У Францыі галоўны велікодны сімвал — званочак. На свята ўсе дзеці абавязкова носяць з сабой званочкі, каб “абзваніваць” усіх, каго пабачаць.

Маленькія шведы ядуць на Вялікдзень вельмі шмат цукерак і іншых ласункаў. Ім нават дараць кардонныя яйкі, напоўненныя цукеркамі.

Больш за ўсё пашчасціла англійскім хлопчыкам і дзяўчынкам — у Вялікдзень ім усе мусяць дарыць цукеркі і цацкі, нават мінакі на вуліцы.